# Мы любім

Кожнаму чалавеку цяжка жыць без мамы. Таму Езус даў нам усім сваю Маці. Каб ніхто з нас не адчуваў сябе сіратой. Вясною ўсё нагадвае нам пра Яе — і радасныя спевы птушак, і яркія краскі ў лесе ды полі, на лузе. Мабыць, не выпадкова і тое, што Маці Божая 100 гадоў таму аб'явілася дзецям у Фаціме менавіта вясною, 13 мая 1917 года. Аб'явілася і тым самым засведчыла, як Яна клапоціцца аб людзях. А калі мы ўшаноўваем нашу Маці?

Калі самі навучымся радавацца і занясем нашу радасць кожнаму, каго сустрэнем!

Калі раскрыем вочы на Божы свет цудоўны, а не будзем узірацца толькі ў камп'ютары, тэлефоны ды смартфоны.



# нашу Маці

Калі ўсё, што ляжыць на сэрцах нашых блізкіх і родных, занясем з любоўю Матачцы Божай.

Калі ні дождж, ні град, ні спакуса ліхая не перашкодзяць спяваць нам з любоўю ў маі літанію.

спевы

Паспрабуйма, сябры, стаць сонечнымі яркімі праменьчыкамі для іншых. Для тых, каму не хапае святла і цяпла. Азірнемся ж навокал і ўбачым тых, каму мы патрэбныя ў гэтыя дні. Будзем вучыцца гэтаму ў Маці Божай, якая заўсёды ёсць блізка.

*Маленькі рыцар Беззаганнай.*

*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 2 (76)/2017 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.*
*220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Касцёльны кансультант — кс. Дзмітрый Пухальскі, рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2;* **e-mail:** *m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 2 000 экз. Заказ № 517.
Падпісана да друку 10.05.2017 г. Надрукавана ў ПУП «Джи энд Ди»
Ліцэнзія № 02330/362 ад 06.05.2013. Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, г. Мінск.

# Чым Яна падобная да Сына?

Пан Езус даў нам сваю Маці не толькі таму, што Ён сам моцна любіў Яе, але яшчэ і таму, што ведаў: Яна найлепш з усіх людзей выконвае Божую волю. Паразважаем над гэтым на прыкладзе святога Ружанца. **Хвалебная частка**. Паспрабуем убачыць, як Марыя наследуе свайго Сына.

**Уваскрасенне**

Марыя радуецца, што Пан Езус перамог смерць і цяпер яны разам у небе. Гэтага ж Яна жадае і кожнаму з нас.

**Унебаўшэсце**

Марыя радуецца, што Пан Езус, пасля таго як выканаў сваё заданне на зямлі, вярнуўся да Нябеснага Айца. Яна таксама заўсёды выконвала Божую волю: «Вось я, слуга майго Пана...».

**Спасланне Духа Святога**

Марыя разам з вучнямі малілася, каб Пан Бог спаслаў Духа Святога людзям, бо сама заўсёды слухалася Яго натхнення.

**Унебаўзяцце Маці Божай**

Марыя ў зямным сваім жыцці рабіла ўсё, каб быць там, дзе знаходзіцца Яе Сын, — у небе.

**Каралева неба і зямлі**

Яна — Каралева, якая ўмее любіць. Таму Яна прыходзіць час ад часу да людзей, каб навучыць і іх гэтаму.

**Заданне**

Паспрабуй і ты таксама напісаць кароткія разважанні на любую іншую частку святога Ружанца. І памятай: Марыя падобная да свайго Сына...




*Малюнак Аляксандры Хамяковай.*

*Ленэ Майер-Скуманц*

# ЖЫВЕ



Себасцьян сядзіць на верандзе і глядзіць на пусты аркуш паперы.

Яму трэба напісаць дзесяць сказаў са словам «жыве». І можна размаляваць літары «ж» і «в» ў слове «жыве».

Себасцьян піша:

*Мыш жыве ў нары.*
*Цвыркун жыве ў куце.*
*Ластаўка жыве пад дахам.*

Больш нічога не прыходзіць у галаву.

Себасцьян паглядзеў у сад. Потым глянуў на неба.

Напісаў яшчэ:

*Сонца жыве ў небе.*

А дзе жыве неба?

Яно ўсюды, дзе няма зямлі. Вось там, у суседскім садзе, у невялічкай сажалцы цёці Элі. Яно ззяе блакітам сярод сітніку.

Себасцьян піша:

*Неба жыве ў сажалцы.*

Ён намаляваў чырвоную рамку вакол літары «ж» і абвёў літару «в» жоўтым алоўкам.

І тут яму прыйшло ў галаву, што «ж» жыве ў слове «жыве»!

Далей усё пайшло лягчэй.

Ён піша:

*Н жыве ў нары.*
*К жыве ў куце.*
*В жыве ў воблаку.*
*Б жыве ў Богу.*

Не хапае яшчэ аднаго сказа. Дзе жыве Бог? Себасцьян моршчыць лоб, так складана яму пра гэта думаць.

Бог жыве ўсюды. Бог жыве, дзе хоча: у людзях, у жывёлах, сярод камянёў, у кветках. Усюды? Спадар Берман з сёмага паверха сказаў: «Бог мяне не цікавіць!». Няўжо Бог можа жыць у спадару Берману, калі той так Ім незадаволены?

Себасцьян думае. Ён уяўляе сабе, што Бог жыве ў спадару Берману патаемна, бо Ён не хоча нерваваць Бермана.

Але Себасцьяну не хочацца пісаць такі доўгі сказ.




Дзе Богу асабліва падабаецца жыць? У Езусе, Ягоным Сыне, і з Езусам — у святым Хлебе. Гэта Себасцьян ведае з заняткаў па рэлігіі.

Але, напэўна, у Бога ёсць і іншыя любімыя месцы.

Безумоўна, Богу вельмі падабаецца жыць у людзях, якія разам радасна спажываюць ежу. Ён жыве ў дзецях, якія разам гуляюць; Ён тады сярод іх, спераду і ззаду, уверсе і ўнізе, вокал іх, і нават гуляе разам з імі, хоць дзеці і не бачаць Яго. Безумоўна, Бог жыве ў тату і маме, калі яны абдымаюцца; тады Бог знаходзіцца паміж імі і ў іх.

Себасцьян бярэ самапіску і выводзіць:

*Бог жыве паміж намі і ў нас.*

Потым ён прыгожа размалёўвае літары «ж» і «в» у слове «жыве».

Але ў гэтым апошнім сказе яму яшчэ нечага не хапае. Себасцьян малюе жоўтае сонца вакол кожнай кропкі над «і» — тры жоўтыя сонцы.

Ну вось — цяпер гэты сказ стаў асабліва прыгожым.



*Пераклад з нямецкай мовы Ірыны Бурак.*

*Паводле: Mayer-Skumanz, L. « Anna und Sebastian. Geschichten zum Lesen und Weiterdenken ». — Freiburg, 2003.*

*Мастак Вольга Чарняўская.*

# Фацімскія пацеркі

Ці ведаеце вы, сябры, калі і як адбываліся аб'яўленні Маці Божай у Фаціме? А колькі самых розных прыгодаў давялося перажыць Францішку, Луцыі і Жасінце для таго, каб гэтыя аб'яўленні дарослыя прызналі сапраўднымі? О, гэта вельмі цікава!

Нядаўна ў Беларусі для вас таксама з'явілася магчымасць перажыць гэтыя прыгоды! Не верыце? А вось і праўда! Дзеля гэтага трэба набыць настольную гульню «Фацімскія пацеркі», гуляць у яе разам з сябрамі і адначасна даведацца шмат цікавага пра падзеі ў Фаціме стогадовай даўніны!

Распрацавала гульню Анастасія Харкевіч. Мы запыталі ў Насці, як ёй прыйшла гэтая ідэя.



— Не сумняваюся, — адказала аўтарка, — што натхніла мяне сама Маці Божая і трое пастушкоў з Фацімы. У маленстве я прачытала кніжку «Гісторыя Жасінты» і палюбіла гэтую дзяўчынку. Памятаю, калі мне было 9 гадоў, я адпачывала ў дзіцячым хрысціянскім летніку «Пацеркі ружанца». У адной з працэсій мне пашчасціла нават выконваць ролю Жасінты. Я была на сёмым небе ад радасці! Словам, мы пасябравалі з гэтай дзяўчынкай, і я марыла пра падарожжа ў Фаціму...








Час ішоў, наша сяброўства мацнела. І калі ў гэтым годзе аб'явілі, што ўвесь Касцёл будзе ўрачыста святкаваць стогадовы юбілей аб'яўленняў Маці Божай у Фаціме, я задумалася пра тое, што можна мне самой зрабіць для ўшанавання гэтай прыгожай даты. Пачала маліцца Пампейскую навэнну да Маці Божай у інтэнцыі, каб мне гэта распазнаць. І паступова прыйшло жаданне зрабіць для дзяцей... гульню. Вопыту ў мяне ніякага не было. Але чаму б і не паспрабаваць? Бо, згадзіцеся, гэта ж так цудоўна, калі ў дзяцей ёсць магчымасць пагуляць у хрысціянскую настольную гульню! Ды яшчэ калі яе тэма такая цікавая, інтрыгуючая...

А далей усё было проста. Я ўзяла вялікі ліст паперы, аловак, гумку — пачала думаць... І ў выніку з'явілася гульня *(смяецца)!* Я рада, што мне пашчасціла працаваць над ёю. Такі вось падарунак зрабіла мне Нябесная Маці ў стогадовы юбілей Фацімскіх аб'яўленняў!

Ну што тут скажаш: падарунак сапраўды вельмі прыгожы — і для самой Насці, і для ўсіх нас. Таму ад імя ўсіх чытачоў «Маленькага рыцара Беззаганнай» дзякуем Анастасіі Харкевіч, мастачцы Ганне Фёдаравай, якая прыгожа аздобіла гульню, айцам марыянам з Жодзіна за тое, што яны выпусцілі гульню «Фацімскія пацеркі» ў свет. Нам жа застаецца цяпер разам з сябрамі, гуляючы ў яе, пазнаваць цудоўную гісторыю далёкай Фацімы. Спадзяемся, што ў выніку Фаціма і яе падзеі наблізяцца да нас.

*Аленка-майстрыха*

*На здымках: першымі пашчасціла гуляць у настольную гульню «Фацімскія пацеркі» дзецям з парафіі Маці Божай Фацімскай з Жодзіна.*




# НАМ Сёстры

*Шаноўныя нашы дарослыя чытачы! Запрашаем тых з вас, хто чытаў наш часопіс у дзяцінстве, а можа нават былі яго героямі ці аўтарамі, адгукнуцца! Нам жа цікава: якімі вы сталі цяпер?*



*А пакуль дзякуем сёстрам Бажэне і Марыі, якія нядаўна прынялі нашае запрашэнне.*

Увосень 1998 года Марыя вучылася ў першым класе, Бажэна — у чацвёртым. Яны жылі разам з бацькамі ў прыгожым старажытным Браславе. У іх было шмат сяброў. І сярод іх — аўчарка Лорд, з якою яны ахвотна бавілі вольны час. Пра гэта і расказаў наш часопіс у сваім трэцім нумары, 19 гадоў таму...



Цяпер Бажэна жыве ў Аўстрыі. Яна скончыла там універсітэт па класе аргана і касцёльнай музыкі. Дарэчы, скончыла на выдатна! Там жа выйшла замуж за Карла, і цяпер яны гадуюць дваіх дзетак: Марыйку і Лукаша. Жывуць яны непадалёк ад Вены. Бажэна служыць арганісткай і кантарам у сваёй парафіі, бо, здагадваемся, без музыкі ёй ну ніяк (!) немагчыма.

А Марыя вучылася ў Мінску, працавала настаўніцай геаграфіі і біялогіі. Сустрэла Рафала, пакахала і выйшла за яго замуж. Цяпер яны жывуць у Лагойску і гадуюць прыгажуньку Агатку.



*Дарагія Марыя і Бажэна! Мы вельмі рады за вас, бо адчуваем, што вы шчаслівыя. А галоўнае, што вы і надалей жывяце з Богам! Гэтага ж мы жадаем і вашым дзеткам ды ўсім дарагім для вас людзям!*

*Рэдакцыя*





# 2О!




# Сустрэча сяброў




1 мая, у дзень успаміну святога Юзафа, рамесніка, у Росіцы маліліся за сем’і. За тое, каб яны былі моцныя і каб у іх добра жылося і дарослым, і дзецям. Таму дзяцей на святце таксама было шмат. І на Імшы, і на знарок арганізаванай для іх праграме. Наш часопіс таксама запрасілі, і мы з радасцю прынялі запрашэнне.

Рэдактар часопіса Ірына Жарнасек расказала дзецям пра часопіс, пра яго заснавальніка святога Максімільяна Кольбэ, а таксама пра тое, што кожны сучасны чытач часопіса можа быць адначасна яго аўтарам і героем.




Марыя Ганчаронак арганізавала цікавую гульню-разважанне пра тое, што гэта значыць — быць рыцарам Хрыста і Панны Марыі. Дзеці расказвалі, якім яны бачаць сучаснага рыцара. У выніку кожны з іх атрымаў смачны прыз 🙂 ды «Закон рыцарства», які быў надрукаваны ў самым першым нумары «Маленькага рыцара Беззаганнай».

У гэты дзень было вельмі холадна. У Росіцы нават ляжаў снег! Але нам усім было весела і ўтульна. Гэтак бывае заўсёды, калі сустракаюцца сябры!

*Янка Запытальнік*






Ірына Жарнасек

# Заступніца

*Апавяданне*

У першы дзень мая ксёндз Андрэй прапанаваў дзецям рабіць прыгожыя малюнкі для Божай Маці, прыносіць свае працы на Маёвае набажэнства і складваць іх на алтары Маці Божай.

У той дзень Алінкі не было ў касцёле — яна захварэла на прыкрую рота-вірусную інфекцыю. Гэта калі табе анічагусенькі не хочацца есці, калі моцна баляць жывот і галава, а ў дадатак некалькі дзён не спадае гарачка. І нават улюбёная Алінчына гарбата з малінавым варэннем ну зусім не дапамагае! І нават лімон перацёрты з мёдам робіцца нясмачным.

Вельмі крыўдна было. Бо хто ж гэта любіць хварэць, ды яшчэ ў маі?

Выздараўліваць Алінка пачала толькі на другім тыдні.

Але малюнкі дзяўчынка ўвесь гэты час малявала. Часу хапала, дык і малявала — каляровымі алоўкамі, аква-

рэльнымі фарбамі, проста шэрым алоўкам. Алінка ўвогуле вельмі любіць маляваць. На заняткі ў мастацкую школу яна заўсёды бяжыць з радасцю, не тое што яе старэйшы брат Андрэй, які толькі і прыдумляе неверагодныя прычыны, каб не пайсці ў музычную школу.

А малявала Алінка для Маці Божай свайго аднакласніка Уладзіка. Спачатку таму, што хацела наскардзіцца на яго. Надта ж ён дакучае Алінцы — то за валасы на ўроку пацягне, бо сядзіць на парце якраз ззаду за ёю, то слова якое прыкрае гукне проста ў вуха на перамене. Апошняе і самае страшнае, што ён вычварыў, — неўпрыкмет падкінуў ёй у заплечнік з кніжкамі... жабу! Алінка як схапіла яе, слізкую ды мокрую, дастаючы кнігу, дык так закрычала, што Марына Герасімаўна доўга потым за сэрца трымалася.

Калі Алінка захварэла, то ажно ўзрадавалася напачатку, бо гэта ж яна не будзе некалькі дзён бачыць забіякі Уладзіка. Вось і пачала скардзіцца Маці Божай з надзеяй, што Яна яго пакарае. Уладзік на малюнках атрымліваўся злосны, задзірысты, часам з высунутым языком.

Ды праз некалькі дзён Алінчыны малюнкі змяніліся. Дзіўна, але чым больш яна малявала, тым больш ёй рабілася... шкада хлопца. Алінка ведала: Уладзік прыходзіць у школу не са свайго дома, а з прытулку. У дзіцячы прытулак яго забралі з дома пасля 8 сакавіка, бо там адбылася нейкая страшная і непамысная гісторыя. Казалі, што ягонай маме хочуць забараніць яго гадаваць, бо яна п’е шмат гарэлкі, нідзе не працуе і зусім не глядзіць за сваім сынам. Гэта расказала Алінчынай маме адна яе знаёмая.

Аднаго разу Уладзік атрымаўся на Алінчыным малюнку зусім сумны. Алінка паспрабавала зрабіць яго весялейшым, але выйшла яшчэ горш — Уладзік на малюнку ў выніку яе дапрацоўкі ажно расплакаўся.



«Мабыць, гэта Маці Божая сварыцца на яго за прыдурствы, — падумала Алінка. — Вось яму і нявесела».

— Маці Божая, скажы Ты яму, каб не чапаў ён мяне больш, — уздыхнула Алінка і раптам дадала: — А яшчэ скажы Уладзікавай маме, каб перастала яна піць гарэлку! Каб яна стала лепшай і каб вярнулі Уладзіка дадому. Бо як жа цяжка яму жыць — без мамы!..

— З кім ты там гаворыш? — гукнула Алінчына мама з калідора.

Алінка сумелася і прамаўчала.

— Ты ўсё малюеш? Пакажы, што тут у цябе новага?

— Вось... партрэты Уладзіка з нашага класа. На алтар Маці Божай.

Мама паглядзела адзін малюнак, другі і раптам засмяялася:

— Гэта твае малюнкі на Маёвае?

— Так... — і Аленка чамусьці пачырванела, як бурак. — Ён такі... невыносны бывае... Яму ж самому ад гэтага нядобра...

— Дачушка, — прыгарнула мама Алінку да сябе, — вядома, дакучае ён табе. Але ж навошта яго маляваць? Знайшла мне героя! Разумееш, дзеці малююць Маці Божай падарункі — кветкі, цукеркі, цацкі розныя... А ты?.. Во прыдумала!

Алінка зморшчылася:

— Значыць, я ўсё не так зразумела. Мне Стася сказала, а я не зразумела. Ты не кажы нікому, я перамалюю.



Ды зусім нечакана ў размову ўстрэў тата. Ён, аказваецца, усё чуў праз прачыненыя дзверы.

— А я не раю табе, дачка, перамалёўваць, — увайшоў ён у пакой. — Ты ўвесь гэты час змагалася за чалавека. Просіш у Маці Божай, каб ён стаў лепшы. Хіба гэта можа не падабацца Ёй? І вельмі добра, што ты выкарыстала час сваёй хваробы, каб прасіць у Маці Божай аздараўлення для іншых людзей.

— Але ж дзеці малююць кветкі... — не надта ўпэўнена запярэчыла мама.

— Ну й добра! І няхай сабе малююць. А наша Аліна расказала Маці Божай пра балючае, пра тое, што трэба выпраўляць. Гэта, калі хочаце ведаць, заступніцкая малітва! А кветкі... Кветкі Ёй намалююць іншыя.

*У афармленні прымалі ўдзел*
*Аляксандра Хамякова,*
*Вольга Важнік,*
*Мікіта Арлоўскі.*







## Ці варта нам шмат есці?

Паважаная рэдакцыя!

У мінулым годзе я разам з сябрамі адпачывала ў летніку «Канікулы з Богам». Было гэта ў Шуміліне. Дзве дзяўчынкі потым нават свой дзённік надрукавалі ў «Маленькім рыцары...». Яны ўсё правільна там напісалі. Але я вось пра што хачу сказаць. Сёстры Соф'я і Магдалена вельмі дбалі, каб мы былі смачна накормленыя. Мы елі чатыры разы на дзень. А я думала пра тое, што дзесьці ў Афрыцы дзеці не маюць і кавалка хлеба... Можа б нам трэба было менш есці? У летніку, у часе розных вандровак ды і ўвогуле?.. А сэканомленыя грошы дасылаць тым дзецям, якія галадаюць?..

*Маргарыта Ясэпкіна, г.Полацк*





## Трэба дапамагаць!

Дарагая Маргарыта! Дзякуй за ліст і за твой клопат пра тых дзяцей, якім голадна, холадна ды няўтульна жывецца. Вядома, трэба нам дбаць пра іх і па магчымасці дапамагаць ім. Але вельмі важна рабіць гэта ад усяго сэрца!

Сястра Магдалена, пра якую ты згадваеш, расказала нам, што яна распавядала дзецям у часе тыдня малітваў за хрысціянскія місіі пра тое, як няпроста жывецца іх равеснікам у Афрыцы. Яна прапаноўвала ўдзельнікам ахвяраваць няхай сабе і невялікія грошы для тых дзяцей. Але важна, каб гэта былі асабіста вамі сэканомленыя грошы: калі, напрыклад, дзіця адмаўляецца есці цукеркі альбо марожанае, а аддасць грошы дзецям з Афрыкі. І адна дзяўчынка ў выніку сапраўды сэканоміла і прынесла некалькі рублёў! Разам з ёю ахвяравала грошы і яе маці. Так што ёсць у нас дзеці і дарослыя, якія прагнуць дапамагаць тым, хто ў бядзе! Добра было б, калі б такіх людзей з'явілася шмат!..

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

# 500 гадоў беларускаму

## ДАРОГІ СЛАВУТАГА ПАЛАЧАНІНА

*(Працяг. Пачатак у №1 за 2017г.)*

На той час некаторыя еўрапейскія краіны ўжо мелі друкаваныя кнігі. У Беларусі ж і ў Расіі іх яшчэ не было. І наш зямляк Францішак Скарына вырашыў узяцца за гэтую высакародную справу. Але для яе патрэбныя былі немалыя грошы. Францішак напісаў лісты на радзіму, звярнуўся да багатых землякоў. Некаторыя з іх падтрымалі яго і ахвяравалі для пакупкі паперы, фарбаў ды друкарскіх варштатаў патрэбныя грошы. Згадзіцеся, сябры: як гэта важна, калі людзі не шкадуюць сродкаў для гэткіх важных справаў!




Сваю друкарскую дзейнасць Скарына распачаў у чэшскай Празе. І закіпела праца!.. Для таго, каб выдаць кнігу, трэба было спачатку перакласці яе на зразумелую для ягоных землякоў-сучаснікаў мову. Скарына сам рабіў гэта, а таксама пісаў прадмовы і пасляслоўі. Да таго ж, ён працаваў над ілюстрацыямі. Вось колькі працы трэба было выканаць гэтаму чалавеку. І ён справіўся з ёю!

Роўна 500 гадоў таму, 6 жніўня 1517 года, Францішак Скарына выдаў першую друкаваную кнігу. Яна называецца «Псалтыр».

На кожнай святой Імшы мы аба-

вязкова спяваем псальм. Вось гэтыя псальмы і надрукаваў Скарына ў першай выдадзенай ім кнізе. Настолькі важныя яны, сябры!

Цяпер, зразумела, яны гучаць інакш, чым 500 гадоў таму. Але змест іх застаўся той жа, і ён вельмі багаты.

Пазней Францішак Скарына выдаў яшчэ ажно 22 кнігі Бібліі. І гэта зусім не выпадкова, што менавіта яна стала першай нашай друкаванай кнігай, бо людзям, каб добра жыць на зямлі, вельмі важна ведаць тое, што кажа пра гэтае жыццё Бог. А Біблія — гэта слова самога Бога, перададзенае нам для таго, каб мы ведалі яго і жылі па ім. І вельмі радасна, што наш зямляк Скарына добра разумеў гэта.

Кнігі Францішка Скарыны багата ілюстраваныя. Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што ілюстрацыі таксама рабіў сам першадрукар. Яны вельмі цікавыя. Тут вы ўбачыце не толькі персанажаў Святога Пісання, але і шмат жывёлаў, птушак, звяроў. Трэба добра ведаць сімволіку створанага Богам свету, каб умець «чытаць» таксама і гэтыя ілюстрацыі. Напрыклад, сонца, вядома ж, нагадвае нам пра тое святло, без якога не было б ніякага жыцця на Зямлі, пчала — пра працавітасць, мядзьведзь — пра моц і трываласць... А як цікава разглядваць старажытныя гарады на гравюрах Бібліі Скарыны! Яны мала падобныя да сучасных гарадоў, але сведчаць пра тое, што ва ўсе часы былі таленавітыя і працавітыя людзі, якія годна жылі і працавалі.

У нашым Краі, дзякуючы Францішку Скарыну, першая друкаваная кніга з'явілася раней, чым у нашых суседзяў. Напрыклад, у Расіі першая друкаваная кніга выйшла на пяцьдзясят гадоў пазней. Таму Францішка Скарыну называюць не толькі беларускім, але і ўсходнеславянскім першадрукаром. Ды і ва ўсёй Еўропе на той час былі толькі тры краіны, якія ўжо мелі друкаваную Біблію на сваёй мове. Яна была тады ў Нямеччыне, Італіі і Чэхіі. Беларусы атрымалі яе чацвёртымі.

*Працяг у наступным нумары.*



# Назавіце кнігі




Сябры! Назавіце кнігі,
у якіх вы чыталі пра Францішка Скарыну.



# Гульні Загадкі



## ЗАГАДКІ З БІБЛІІ

Тэма гэтага нумара — Маці Божая ў Евангеллі. І таму нашыя загадкі таксама пра Маці Божую. Да таго ж, памятайма пра тое, што мы прыносім Ёй найбольшую радасць, калі набліжаемся да Яе Сына, любім Яго і служым Яму.

- Знайдзіце ў Евангеллі два ўспаміны пра Маці Божую. Напішыце іх.
- Чаго Марыя хадзіла да сваёй сваячкі Альжбеты (Лк 1)?
- Як звалі бабулю і дзядулю Езуса?
- Якія важныя для нас словы сказала Найсвяцейшая Панна Марыя на вяселлі ў Кане Галілейскай (Ян 2)? Напішыце іх.
- Нашыя сны часам могуць быць вельмі таямнічымі. Прывядзіце тры прыклады сноў, у якіх Пан Бог папярэдзіў людзей пра надзвычайныя падзеі.
- Напішыце апошнія словы Езуса на крыжы, звернутыя да Яго Маці і ўсіх нас. У якім Евангеллі вы іх прачыталі?

## Смяшынкі-Весялінкі

**Які фотаздымак?**

Зебра і пінгвін прыйшлі у фотаатэльe і просяць зрабіць ім фота на памяць.

— З задавальненнем! — адказаў фатограф. — А вам які фотаздымак, каляровы альбо чорна-белы?

**Шкада, што не пяць**



У дзіцячым садку выхавальніца пытае ў дзяцей:

— Колькі будзе 2+1?

— Тры! — радасна крычаць дзеці.

— Малайцы! — пахваліла выхавальніца. — Узнагарода вам — тры цукеркі.

— Шкада, што мы не адказалі «пяць», — уздыхнуў Міхаська. — Было б кожнаму па цукерцы.

Адказы на **Загадкі, змешчаныя ў № 1 за 2017 г.**

**«Загадкі з Бібліі»:** Ян Хрысціцель; на Ярдане; Евангелле (гэта словы Езуса Хрыста (Мк 1,15), бо без пакаяння ў духу Евангелля няма збаўлення; Езус сказаў гэта апосталам, а цяпер іх выконваюць святары ў Касцёле; Хрыстус, грахі; зграшыць, пакаецца, прабач; пакаянне ліхадзея, Езус паабяцаў яму, што возьме яго ў рай.

**Заданне:** Полацк, Кракаў, Падуя, Прага.

**Водгук на голас з далёкай Партугаліі:** касцёлы Маці Божай Фацімскай у Шуміліне, Жодзіне, Баранавічах, Лельчыцах і Любані.

**Рэбус:** канфесіянал.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



# Крыжаванкі

## ЦІ ВЕДАЕШ ТЫ СВАЮ КРАІНУ?

## АРХІТЭКТУРА ПОЛАЦКА






Сучасны Полацк багаты на архітэктурныя помнікі. Вы ведаеце іх? Назавіце.











## *Заданне для дапытлівых*




Сябры! Францішак Скарына — наш першадрукар. А якімі яшчэ прафесіямі валодаў гэты чалавек?

## РЭБУС


























*Рубрыку вядзе*
*Марыя Ганчаронак*

*Нашы рукі да працы гатовы*

# Сімвал Святога Духа

Сябры! Набліжаецца яшчэ адно вельмі важнае свята для ўсяго Касцёла і для кожнага з нас — Спасланне Духа Святога.

А ці ведаеце вы, што з'яўляецца сімваламі Святога Духа?

Гэта — вецер, агонь, голуб, святло... На абразах, напрыклад, мы вельмі часта бачым голуба. Таму я прапаную вам паспрабаваць самім зрабіць яго. Хто ведае, магчыма, у працэсе працы ды й потым гэты твор дапаможа вам адчуць подых Святога Духа...

Дык за працу!

**Нам спатрэбяцца:**

- аловак;
- белыя аркушы паперы;
- клей;
- нажніцы.
- І яшчэ проста неабходна будзе вялікае жаданне выканаць працу як найлепш.




Гатовыя? Пачынаем:

На самым пачатку трэба намаляваць контур голуба (гэта вельмі проста зрабіць нават тым, хто, як і я, не ўмее маляваць). Не абавязкова вымалёўваць кожную рыску, бо гэта будзе аснова. Яе трэба выразаць.

Потым алоўкам малюем пёркі (таксама толькі контур) рознага памеру, рознай формы, вузкія і шырокія, кароткія і доўгія. І таксама выразаем іх.

Цяпер трэба паклапаціцца, каб кожнае пёрка «ажыло». Для гэтага



на кожным з іх трэба нажніцамі па контуры зрабіць надрэзы. Чым больш вы іх зробіце, тым прыгажэй атрымаецца.

Прыклейваем пёркі на аснову птаха. Каб атрымалася прыгожа, я спачатку без клею па-рознаму размяркоўвала іх, шукала варыянты. І толькі калі падабрала самы прыгожы варыянт — пачала прыклейваць.



**Парада**

Для таго, каб акуратна прыклеіць пёрка, дастаткова адной кропелькі клею — усё пёрка змазваць і прыклейваць не трэба! Толькі самы кончык «ножкі».

Атрымалася? Цяпер, думаю, варта знайсці для голуба належнае месца на вашым стале альбо над ім, каб у часе выканання вашых хатніх заданняў ён нагадваў вам пра тое, што ва ўсялякай, нават самай цяжкай справе, нам можа дапамагчы Дух Святы!



# КОНКУРС «НАШ




*Таццяна Жалкоўская. 8 гадоў, Нарач.*

Сябры! Рады пазнаёміць вас з творамі чытачоў, дасланымі на конкурс часопіса «Наш першадрукар». Рэдакцыя атрымала вялікі пакет з Нарачы з малюнкамі, а таксама працу Ганны Васілеўскай з Наваполацка.

Няхай жыццёвы і творчы подзвіг Францішка Скарыны натхняюць вас на вершы, малюнкі, рэпартажы і самыя розныя творы. Наш конкурс працягваецца да канца гэтага года. Чакаем вашых твораў! Але не адкладвайце гэтую важную справу ў доўгую скрыню. Дарэчы, летам творы атрымліваюцца вельмі ўдалыя! Поспехаў вам!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



*Вераніка Мілош. 9 гадоў, Нарач.*




*Улляна Куркуль. 10 гадоў, Нарач.*




*Аліса Дангель. 9 гадоў, Нарач.*



*Вікторыя Блашкевіч. 10 гадоў, Нарач.*



# ПЕРШАДРУКАР»




*Мікалай Сіськевіч.*
*6 гадоў, Нарач.*




*Ганна Васілеўская.*
*6 гадоў, Наваполацк.*



*Павел Салаўёў.*
*10 гадоў, Нарач.*



*Ганна Кумішча.*
*12 гадоў, Нарач.*



*Ірэна Ахрамовіч.*
*Паводле Я. Драздовіча.*
*17 гадоў, Нарач.*



*Марыя Несвятаева.*
*10 гадоў, Нарач.*



У афармленні матэрыялаў нумара прымалі ўдзел юныя мастакі з ДУА «Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка» (майстэрня Г. Хінкі-Янушкевіч).